# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

№ 10



АРТЫЗАНЫ

З карціны мастака ЭНД



# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ
ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ

ГОД ВЫДАНЬНЯ 5
ЧЭРВЕНЬ 1933
№ 10



# Белы афіцэр

Апавяданьне Цім. Зарэчнага
Малюнкі Г. Ізмайлава

Гэта было 11-га ліпеня 1920 году — у апошні дзень панаваньня белапольскіх войск у Менску.

Па вуліцах гораду шпарка праходзілі салдаты, ехалі коньнікі, грымелі падводы,— гэта белыя паны ўцякалі ад чырвонаармейцаў.

За горадам чуўся строкат кулямётаў і выбухі гармат; на небе віселі чорныя хмары дыму.

Белапалякі, адступаючы з гораду, падпальвалі будынкі, хлебныя склады і масты, каб нічога не пакінуць Чырвонай арміі. Яны зьдзекваліся з працоўных людзей у горадзе.

На рагу дзьвёх вуліц стаяў высокі белы афіцэр. Ён адбіўся ад свае часьці і цяпер углядаўся ў натоўп салдат, каб знайсьці сваю роту.

Абрыдла афіцэру глядзець на салдат. Ён павярнуў у завулак, каб бліжэйшай дарогай выскачыць на поле, да свае часьці. Па дарозе ён убачыў, як берагам Сьвіслачы бяжыць праставалосы хлапчук. Чарнявыя хлапчуковы вочы блішчэлі сполахам.

Белы афіцер, убачыўшы хлапчука, падумаў, што гэта канешне бальшавікоў сын. „Заб'ю, пся крэў, — мільганула ў галаве афіцэра,— адпомшчу твайму бацьку, што змагаецца супроць паноў!“

З гэтаю думкаю афіцэр прысеў на калена і стрэліў з рэвальвэра ў хлапчука. Куля дзынкнула каля хлапчуковых ног і прыгнула яго да самае зямлі. Хлапчук растапырыў рукі, паваліўся на зямлю, падскочыў і пабег наўцёкі, — па крутаяру, над самай рэчкай усьцяж высокага паркану.

Афіцэру захацелася жартаваць з хлапчуком, як кату з мышшу. Ён нацэліўся і выстраліў у хлапчука ў другі раз. Куля рванула зямлю пад хлапчуковымі нагамі; хлапчук яшчэ раз падскочыў, перакуліўся, а потым з крыкам паляцеў уніз—на бераг рэчкі Сьвіслачы.

Белы афіцэр ухмыльнуўся і наважыўся ісьці далей, але ў гэты момант з-за шэрага раду дробных будынкаў таропкаю хадою вышаў стары дзед. Ад шпаркае хады вецер падзяліў на дзьве палавіны вялікую бараду старога. Ён кульгаў, абапіраўся на высокі кіёк, і з вачэй яго капалі сьлёзы.

— Чалавек, вы забілі майго ўнука,— ціха праказаў стары. — Майго ўнука звалі Янкелем,—яшчэ цішэй прашаптаў стары.

— Яго маці сёньня забілі вашы салдаты, а бацьку забралі з сабою, і я ня ведаю, дзе ён і што з ім. Чалавек, навошта забілі майго ўнука, апошнюю радасьць маю, маленькага Янкеля майго?

Белы афіцэр злосна паглядзеў на старога, а потым замахнуўся рэвальвэрам і ўдарыў яго па галаве. Стары пахіснуўся і паваліўся на брук. Вялікі камень ляжаў каля галавы старога, і галава яго была падобна на гэты камень.

Афіцэр стаяў над старым, зьдзіўлены падатлівасьцю слабога цела. Ён нагнуўся над ім, угледзеўся ў твар: вочы былі адкрыты, ня мігаючы глядзелі ў неба, ціха стукала сэрца.

— Сьмерць,—праказаў афіцэр, і з гэтымі словамі пабег шукаць сваю часьць.

Праз некалькі гадзін Чырвоная армія ўвайшла ў Менск. Рабочыя гораду сустракалі яе з вялікай радасьцю. Яна прынесла з сабою волю і новае жыцьцё. Жанчыны і мужчыны віталі чырвонаармейцаў, выносілі ім ежу, каб падсілкаваліся байцы пасьля бойкі.



Белы афіцэр злосна паглядзеў на старога, а потым замахнуўся рэвальвэрам...

У гэты-ж дзень чырвонаармейцы знайшлі забітага Янкелевага дзеда і самога ледзь жывога Янкеля на беразе рэчкі. Дзеда пахавалі, а Янкеля адвезьлі ў бальніцу. Праз некалькі месяцаў Янкель ачуняў, і тады яго накіравалі ў дзіцячы дом.

Бацька Янкеля хутка ўцёк ад белапалякаў і з вялікай радасьцю даведаўся, што сына яго выратавалі чырвонаармейцы.

# Дзень вызваленьня



Мы славіць будзем вечна дзень,
Што вызваленьнем к нам прышоў.
Трынаццаць год як зьнікла цень
Жандармаў і паноў...

На косьцях нашых тут яны
Свой ладзілі хаўрус.
Хацелі польскія паны
Зьняволіць наш Саюз.

Прышлі зьвярамі, катамі,
Кідаючы агнём —
Са стрэльбамі, з гарматамі,
З крыжамі, з бізуном.

Да уладарства пан ахвоч,
Ён па маёнткі йшоў,—
Гарэлі-ж вёскі дзень і ноч,
Лілася кроў бацькоў.

А пан сядаў за сыты стол,
Ён быў маёнтку рад,—
Стаялі-ж вісельні вакол,
Вяроўкі мыліў кат.

Бары, лясы, загоны, гаць
Заслаў гарматны дым...
Але нядоўга баляваць
Тут давялося ім.

Ва ўсе дарогі і канцы
Дарма слаў войска пан,—
Расьлі чырвоныя байцы
Рабочых і сялян.

Прышоў расплаты грозны час,
Апёк паноў, як вар...
І беглі ворагі ад нас
Праз ночы і пажар.

На бойцы вёскі, гарады
Свой ладзілі саюз.
І зноў радзілася тады—
Савецкай Беларусь.

П. БРОЎКА



# ЧЫРВОНЫ СЬЦЯГ

*Апавяданьне А. ДЫЛА*

Хлопчык Юзік устаў вельмі рана. Баяўся праспаць. Ды як-жа было праспаць? Бацька казаў, што сёньня усе рабочыя з іхнай і другіх фабрык выйдуць на вуліцы. Выйдуць з чырвонымі сьцягамі, дружнымі калёнамі. Будуць дамагацца ад буржуазіі сваіх правоў.

Юзік перш-на-перш пабег да сваіх сяброў.

— Слухайце, хлопцы, давайце і мы ўсе пойдзем на вуліцу... з чырвоным сьцягам, як нашы бацькі...

— А дзе-ж мы сьцяг возьмем?—пацікавіўся Янка.

— У нашай Ядзі чырвоная хустачка ёсьць. Вось і сьцяг зробім.

Гэта вельмі абрадвала юзікавых сяброў.

* * *

Калі ўсе было гатова, дзеці з песьняй рушылі на вуліцу. Сьпераду ішоў Юзік. У руках ён трымаў чырвоны сьцяг і сьпяваў мацней за ўсіх.

Ідуць дзеці вуліцай, і чуюць здалёку сьпевы рабочых. Рады яны, вочкі заблішчалі, а Юзік яшчэ вышэй падняў сьцяг, яшчэ мацней сьпявае. Песьня ўсё бліжэй і бліжэй, вось ужо і недалёка бацькі, зараз яны далучацца да іх і пойдуць разам. Прайшлі яшчэ крыху, аж раптам чуюць страляніну.

— Трах-х! Тра-ах!—Гэта панскія служкі—паліцыянты так сустрэлі рабочую дэманстрацыю.

Спужаліся дзеці, кінуліся ўцякаць, хто куды. Юзік сарваў чырвоны сьцяг свой з палачкі, схаваў яго за пазуху і таксама пабег. Заўважыў гэта паліцыянт, пагнаўся за Юзікам.



Бяжыць Юзік, а паліцыянт вось-вось дагоніць яго. Юзік на чужы двор—паліцыянт за ім. Юзік праз плот — паліцыянт таксама. Замарыўся Юзік, абліваецца потам, а сэрца з грудзей ледзь ня выскачыць: тук-тук-тук. Вось-вось нагоніць паліцыянт: ужо блізка грукаюць яго боты, а ў Юзіка няма больш сілы бегчы. Страшна стала яму.

Убачыў Юзік сабачую будку, кінуўся туды. А там сабака вялікі, злосны. Спалохаўся Юзік: „загрызе",—думае. А той панюхаў і не крануў яго. Толькі пасьля Юзік разглядзеў, што сабаку гэтага ён шмат разоў бачыў, калі прыходзіў гуляць сюды да Міколкі.

Падбег паліцыянт, туды-сюды глядзіць,—нідзе няма хлопца. Ён к будцы, а сабака як забрэша, як выляціць, ды хваць яго за нагу. Закрычаў паліцыянт, вылаяўся моцна і пабег далей шукаць Юзіка.

Аж да цёмнай ночы сядзеў Юзік у будцы з сабакам, баяўся вылезьці. Холадна было яму, дрыжаў бедны хлопчык, ціснуўся шчыльней да свайго сябра—сабакі і гэтак трохі грэўся.



Увечары ціханька вылез Юзік з будкі і пайшоў крадком дахаты. А дома матка плакала, чакаючы сына, думала, што забілі малога. Да позняй ночы хадзіў бацька па вуліцах і шукаў сярод забітых свайго маленькага Юзіка.

Колькі-ж было радасьці бацьком, калі ўбачылі Юзіка жывым! Маці кінулася да Юзіка і пачала цалаваць. А ён важна выняў з-за пазухі чырвоны сьцяг і сказаў:

— А ўсё-ж-такі я не аддаў буржуям чырвонага сьцягу.




# Новая фабрыка

Пусьцілі на фабрыцы пагалоску, што новую фабрыку будуць будаваць замест старой. Старая зусім малая. І будзе тая фабрыка такая, што і заграніцай ня знойдзеш: сьцены шкляныя, сьвятло, паветра,—ня фабрыка, а нібы палац!

Стары рабочы Пракоп гэтаму не паверыў.

— Дзе-та відана? Наша фабрыка паўсотні гадоў стаіць, і ніхто яе ня трывожыў. А тут—новую. Не паверу я...

Але праз некалькі дзён усё зьмянілася каля старой ткацкай фабрыкі. Сюды вазілі цэглу, жалеза, шкло.

Мінуў год, і на пустым месцы вырасла новая фабрыка.

Глянеш на яе—сэрца радуецца: сапраўды ня фабрыка, а палац!

Нават Пракоп і той сяды-тады заўважыць:

— Ну, скажы на міласьць, пракураты якія!

А што такое пракураты—Пракоп і сам ня ведае. Такая ў чалавека прымаўка.

Але Пракоп пахваліць, пахваліць, а потым зноў сваё: прывык ён за век да старой фабрыкі і здаецца яму, што лепшай і быць ня можа.

— Пабудаваць пабудавалі, а вось пусьціць у ход—гэта наўрад ці ўдасца,—кажа Пракоп.—Няма ў нас такіх майстроў, каб гэткай махінай кіраваць. Страты тут вялікія будуць.

* * *

Прышоў дзень, калі меліся пусьціць новую фабрыку. Гэта быў дзень 11-га ліпеня. Народу сабралася многа. Прыехалі госьці з Менску, і з другіх месцаў. Прыехалі і з падшэфнага калгасу.

Госьці спачатку пайшлі аглядаць фабрыку. Рабочыя радаваліся, што фабрыка сьветлая і прасторная. Нават Пракоп сказаў:

— Ці бачыш, што тут вышла! Гэта-ж лепей ня трэба. Пры такім сьвятле і працаваць куды зручней і лепш будзе!

— Што-ж ты ня ганіш фабрыкі?—жартуюць рабочыя з Пракопа.

— Ды яно няма за што,—нібы апраўдваецца Пракоп.

* * *

Агледзеўшы фабрыку, усе рушылі ў залю. Тут будзе сход, прысьвечаны пуску новай фабрыкі.



На сцэне за чырвоным сталом—члены фабкому, дэлегаты, госьці, інжынэры, дырэктары. Устаў рабочы Андрэй Якубчык.

— Таварышы! — сказаў ён.—Мы адчыняем фабрыку імя Міхаіла Іванавіча Лакіна, лепшага нашага рабочага, партызана, забітага белапалякамі ў час грамадзянскай вайны. Ушануем яго памяць.

Зайграла музыка. Усе ўсталі і засьпявалі жалобны марш.

Стаіць Пракоп з боку, як у тумане, і не заўважае, што сьлёзы цякуць у яго па твары.

— Міша... Міша...—шэпча ён сам сабе,— эх, Міша...

А сам усё успомніў. Быў тысяча дзевяцьсот дзевятнаццаты год. Белапалякі дабіраліся і да іхняга гораду. Рабочыя кінулі працу, пайшлі змагацца. У адным такім партызанскім атрадзе быў ён, Пракоп. А Міша, такі гарачы, упарты барацьбіт, быў у іх за кіраўніка. І вось аднаго разу іхны атрад акружылі белапалякі. Прышлося адступаць. Міша адступаў апошнім. Але... праклятая куля падкасіла яго...

Усё гэта ўспомніў Пракоп.

— Гэй, садзіся, Пракоп, садзіся,—кажуць яму паціху ззаду.

А рабочы Андрэй казаў далей:

— І вось, таварышы, мы адчыняем фабрыку, пабудаваную рабочай дзяржавай. Мы будавалі яе толькі адзін год, але яна лепшая за тыя старыя, што будаваліся гадамі.

— Таварышы! Нашай дружнаю працаю мы будзем мацаваць памяць таго Мішы, які аддаў сваё жыцьцё за рабочую справу. Таварышы! Вось сярод нас тут паплечнік Міхаіла Іванавіча, стары рабочы Пракоп, дык няхай ён нам раскажа усё, як яны разам з Мішам змагаліся супроць белапалякаў!

— Няхай! Няхай! Просім!—закрычалі кругом і застукалі далонямі.

І нібы зямля ўцякла з-пад ног Пракопа. Устаў ён, азірнуўся, пакланіўся, сеў, зноў устаў. А ззаду падганяюць на трыбуну.

Пракоп вышаў наперад.

— Браткі, — ціха сказаў ён. Браткі— таварышы!

— Гавары, гавары! — крычалі кругом.— Гавары, Пракоп!

— Таварышы... зноў паўтарыў Пракоп.

І раптам сьлёзы навярцеліся на яго вачох.

— Нічога не магу, — прагаварыў ён.— Я другім разам раскажу. Гэтулькі радасьці сёньня і... пра мінулае ўсё ўспомніў я... пра Мішу... Не, таварышы, я другім разам...

— Ура! Ура!—крычалі рабочыя, стукаючы далонямі.

А музыка зайграла „Інтэрнацыянал“.



**На ткацкай фабрыцы.**

# Савось Растусьнік

**Верш Якуба Коласа**
**Малюнкі Н. Пашкевіча**

I

Вось што, дзеткі, мае краскі:
Што хадзіць за многа міль?
Можа лепей замест казкі
Расказаць вам адну быль?
Згодны? Добра.
Ну дык вось.
Зваўся хлопчык наш Савось.
Ой, і быў-жа ён дурасьлівы!
У сад лазіў па грушы, па сьлівы,
Дзіркі ў градах рабіў—
Моркву сьцібрыць любіў.
І маку ён скручваў галоўкі,—
Ну, на гэта быў страх які лоўкі!
А рукі ў яго ня мыты,
— Нос не абцёрты,
Абшарпаны, абдзёрты,
А сам ён сярдзіты,—
Такі задзірака,
Такі забіяка
Буян,
Грубіян!
Зачэпіць старога,
Пакрыўдзіць малога.
Такі ўжо нягоднік
Ды гэтакі шкоднік!
Бегаў загуменьнямі,
Кідаўся каменьнямі,
Пападаў у шыбы,
Хоць гані з сялібы!
Меў на зло сьмякалку:
Зьніме з вежы галку.
І такі гарачка,
Няхай яго качкі!

II

У Савосева суседа
Быў пярэсьценькі каток,
Выхаванец Паўла дзеда,
Такі слаўны пястунок!
Хадзіў коцік пад масток,
Лавіў рыбку за хвасток.



У сад лазіў па грушы, па сьлівы ..

Потым дзеду ён на печы
Казкі-байкі варкаваў,
Белым хвосьцікам да рэчы
Такты сьпевам адбіваў.
Коцік з дзедам жылі ў згодзе,—
Не сварыліся за печ.
Быў раз коцік на паходзе,
На мышэй падняў ён меч.

Шоў каток з паходу,
Разагнаўшы мышак,
І сеў на калоду,
Пад страху ў зацішак.
Грэе сабе сьпінку,
Мордачку і лапкі.
Зірк—Савось з будынку
Выскачыў бяз шапкі!
За Савосем—Рудзька!
„Кусі ката, цюцька!“
Коцік бедны ўвесь жахнуўся,
Ды на шчасьце быў тут плот,
А пры плоце дуб, і кот
Толькі фыркнуў, мільгануўся
І на дубе апынуўся.

Ня ўдалося Савосю
Катка падкусіць
І прышлося Антося
На помач прасіць.

III

Вось Савось
І Антось
Сталіся дружакі.
Каля клуні стаяць,
Штось ліхое таяць—
Радзяцца, вужакі:
Як злавіць ім катка,
Каб спусьціць з павадка
Рудзьку на расправу!
Падшывальцы-ж яны!
І іх розум дурны
Выдумаў забаву!
А па той нарадзе
Саўка торбу крадзе,
Анцік—хлеб сабаку.
А каток на печы
Сеў, як той старэчы,—
Яму і ня ўзнаку!
Затаіўся ў кутку
Наш Савось і катку
Замаўляе зубы
Для кацінай згубы:
„Ах, ты коцічак мой!
Які файны ты, ой!
Што за сьпіначка!
Ну, карціначка!
Ідзі, коцік да мяне,
Не пакрыўджу, ой, не, не!


**Не ўдалося Савосю катка падкусіць.**

Яўкнуў коцік, выгнуў сьпінку,
Хвост падняў, як корбу,
Але ў тую-ж хвілінку—
Шусь каток у торбу!

IV

І панесьлі катка ў поле.
Чыста там, ані кусточка,
Ні хваінкі, ні дубочка,
Адны межачкі ды ролі.

Няма дзе катку схавацца:
Чуць сінее лес далёкі,
А сяло за тры валокі—
Як-жа коцю ратавацца?
Плача ў торбе коцік, плача:
„Мяў, мне душна! Мяў, мне цесна!“
Б'ецца сэрцайка балесна,
Бо мне грозіць сьмерць ня начай!“
Кот бурчыць і гурчыць,
Лапамі дзярэцца,
А Савось хоць-бы што —
Цешыцца, сьмяецца.
— Ну спыніся, Антось,
Прытрымай сабаку,
А я коціка пушчу,—
Скуй тады ў атаку.
Адышоўся Савось,
Анцік прыпыніўся,
І тут коціку астрог
Раптам адчыніўся.
З торбы выскачыў, прысеў—
Трэба разглядзецца...
Ой, там Рудзька! Што рабіць?
Дзе катку падзецца?!
— Скуй! Пускай! крычыць
Савось.
— Кусі ката, Рудзька!..
А чаго-ж там закрычаў
Савось так нялюдзка?
Глянуў Анцік—вось дзівота,
Вось дзе ліха, вось бяда!
Што зрабіла ім дурота!
І што сталася з ката!

Вось папаліся дзе змоўцы,
Проста шкода малышоў!
На Савосевай галоўцы
Коцік схованку знайшоў!
Лемантуе бедны Саўка,
Ашалелы, чуць жывы.
Кот упіўся, ну, як п'яўка,
І ня зьнімеш з галавы,—
Запусьціў капцюр у скуру
Аж да самае касьці.
Скача Саўка з таго дуру
І крычыць: „Пусьці! Пусьці!“
Рудзька верціцца навокал,
Брэша, цопае катка...
Ай, Савоська, ты мой сокал!
Справа дрэнна і брыдка!

Ой, нагараваліся,
Ой, бяды набраліся
Хлопцы з тым катом!—
З поля як вярталіся,
Людзі з іх сьмяяліся
Тыкалі пярстом*)
Шоў Антось наперадзе,
Рудзьку вёў на прывязі
Пазіраў уніз
А Савось на вотшыбе
На галоўцы з коцікам
І шаптаў—кіс! кіс!
І хоць ён не піанэр,
А чырвоны меў каўнер.

*) Пальцам.



# Папоўскае Дзіва

Кепска стала жыць папу. Калгасьнікі амаль што перасталі хадзіць у царкву. Сяды-тады заходзяць туды бабулькі. Але карысьці ад іх папу ніякай. А камсамольцы з калгасу пагаварваюць ужо, што трэба закрыць царкву.



Прышоў поп да аднаго падкулачніка, былога царкоўнага старасты Сідара. Той цяпер у калгас пралез.

— Памагай,—кажа поп.—Трэба дзіва якое прыдумаць, а то жыцьця няма. І прыдумалі яны такое „дзіва".

Стаў Сідар усюды гаварыць, што перастаў ён у бога верыць. Усе абразы выкінуў з хаты, а жонка яго давай дзеля людзей лемантаваць ды прыгаварваць:

— Пакарае цябе бог, вось успомніш мае слова.

Праз тры дні разышліся па калгасе чуткі, што Сідар аглух, сядзіць у хаце і нічога ня чуе. Прышлі калгасьнікі ў Сідараву хату. Гавораць да яго, крычаць. А Сідар сядзіць і нікому нічога не адказвае.

А жонка ўсё тупае ды плача:

— Вот пакараў бог. І ўсіх, хто бога забыў, пакарае.

Напалохаліся некаторыя калгасьнікі. Пачалі каяцца, што пра бога забыліся. А жонка Сідара па папа пабегла, каб малебства адслужыў.

Даведаўся пра гэта чырвонаармеец Рыгор, які на гэты час быў у водпуску. Пайшоў і ён да Сідара. Прыходзіць. Бачыць людзей поўна. Поп малебства служыць.

Падышоў ён скоранька да Сідара, ды калі крыкне:

— Дзядзька Сідар, твая хата гарыць!

— Як гарыць? Дзе гарыць?— усхапіўся з лавы Сідар і куляю выляцеў на двор.

Убачыў поп, што прапала „дзіва", падкасаў свой балахон ды ходу з калгасу.



# Балотная вадзіца

Апавяданьне С. Пакроўскага

Наш лагер варочаўся з экскурсіі. Хадзілі мы ў лес. Дзень быў вельмі гарачы. Пякло сонца. Мы замарыліся, разамлелі і разьмяклі, як гліна. Падыходзім мы да балота, дзе цякла брудная канаўка. Мой таварыш Янка і кажа:

— Пачакай! Давай нап'емся! Паміраю — піць хачу!

Дайшлі мы да кладак, ляглі на жываты і давай чэрпаць прыгаршчамі ваду. А вада каламутная, цёплая, сьмярдзючая. Але мы не зважаем—п'ем, каб прагнаць смагу.

— Што вы, дзеці, робіце? Дзе ваш розум? Хіба-ж можна піць з балота? Вось схваціш тут якой-небудзь заразы, а мне потым лячы вас.

Глядзім мы, ажно гэта наш лагерны доктар. Праходзячы, ён убачыў нас, падышоў да кладак, а мы і ня чулі.

Ну і насварыўся ён на нас! А потым выняў з кішэні нейкі кубачак, зачэрпаў вады ды і кажа:

— Хадзем разам са мною ў лагер. Я вам пакажу, што вы пілі.

Прывёў ён нас у свой пакойчык. На стале стаіць мядзяная труба на невялічкай падножцы.

Гэта мікраскоп,—кажа доктар,—праз яго можна разгледзець усякую дробязь да апошняй пылінкі.

Доктар узяў шкелца, капнуў на яго з кубачка балотнай вады і падставіў усё гэта пад трубку.

— Паглядзеце, — кажа,—чаго вы наглыталіся з балотнай вадой.

Калі я зірнуў у трубку, дык аж сэрца маё ёкнула. Чаго толькі там ня было! Гэта ўжо была ня кропля вады, а цэлая сажалка; а ў ёй бегала і варушылася процьма ўсякай драбноты, аж мне страшна стала.

Мы глядзім, а доктар тлумачыць. Прынёс ён кніжку, у якой была намалявана ўся гэта жыўнасьць. Паказвае ён адзін малюнак і пытае:

— Вось гэтага бачыце праз мікраскоп?

— Бачым.

— Гэта такі вадзяны рачок, ён завецца вадзяная блыха.

— Мусіць, ці не таму, што яна так спрытна скача, хоць і ў вадзе.

— Так, так! А вось прыгледзьцеся да яе добра — яна празрыстая, як шкло.

Тут раптам набегла яшчэ шмат усялякай драбноты.

— Гэта інфузорыі, — кажа доктар.—Яны даўгаваценькія, як яечкі, і ўсе пакрыты малюсенькімі валасочкамі. Валасочкі міргаюць. Яны ім замест вёслаў служаць.

— І ўсё гэта цяпер у нас у жываце? Што-ж з гэтага цяпер будзе?

А доктар сьмяецца.

— А што, напіліся? Ну, ды гэта яшчэ нічога. Блохі ды інфузорыі, хоць і вёрткі

народ, але ад іх шкоды няма. А вось зараз я вам пакажу другіх, дык тыя будуць горшыя.

І ён наставіў трубку інакш.

— Ну,—кажа,—паглядзеце цяпер.

Глядзім мы, баімся, аж там няма нічога страшнага.

— Што-ж, вы нічога ня бачыце?

— Ды тут і глядзець няма чаго. Так бруд нейкі плавае—нібы кропкі, коскі, палачкі якія...

— Вось гэта і ёсьць самае страшнае. Гэта, дзеці, бактэрыі. Чулі пра іх што-небудзь?

— Гэта розныя хваробы ад іх бываюць?

— Якраз угадаў. Яшчэ добра, што не ад кожнай бактэрыі хвароба здараецца. А то тады зусім было-б дрэнна.

Тут ён паказаў на сьцяне малюнак. Там былі намаляваны гэтыя самыя бактэрыі. Адны рассыпаны кропкамі, другія ланцужкамі, спружынкамі, а трэція з кручочкамі ды з валасінкамі. Тут нам доктар расказаў, якая хвароба прыключаецца ад кожнай бактэрыі.

Мы слухаем, а самі аж млеем ад страху. Бачу я, мой Янка аж спацеў увесь, вось-вось заплача.

— Вось што, хлопцы, вы ўжо ня надта і палохайцеся. Можа яшчэ і так пройдзе. А калі ў вас забаляць жываты, тады прыходзьце да мяне—я дам лякарства.

Пад вечар мяне схапіў жывот. Сказаў я дзяжурнаму пра гэта. Прашу, каб доктара



паклікаў. Чую, аж і Янка ў суседнім пакоі таксама стогне—відаць, і яму жывот баліць.

Прышоў доктар, даў нам лякарства ды кажа:

— Ну, на гэты раз пройдзе, а надалей сьцеражэцеся, бо ад такой вады ні то што захварэць, але і памерці можна.

Нам з Янкам гэта была навука на ўсё жыцьцё: мы цяпер ня толькі ня п‘ем балотнай вады, але і сырой са студні ніколі ня ўжываем. Нам толькі гатаваную давай, дзе няма ніякай заразы.

# У вадзе—зараза

— Дзеткі,—доктар нам
сказаў:
Я усім вам паказаў,
Што у кропельцы вады
Шмат усякае брыды.

І жывёлак, і пылінак,
Розных тоненькіх галінак
І ніціначак такіх,
Што ніяк ня убачыш іх!

Закажэце маме, тату,
Бабцы, дзеду, сёстрам,
брату,
Каб сырой вадзіцы болей
Ня пілі яны ніколі.

Бо з сырой вады мікробы
Цераз горла, цераз рот
Пападаюць і ў вантробы,
І у кішкі, і ў жывот.

Чалавек тады хварэе,
З дня на дзень усё
слабее
І праз год — найболей
тры—
Памірае без пары!




КАЗКА

Ой, цяжка, вельмі цяжка было жыць за лютымі панамі. А ліхія паны былі ўсе. Ты яму годзіш, шчыра робіш, а ён табе ўсё крычыць: „ня так; шэльма, ня так“, зьдзекуецца з цябе. А чуць што,—жыўцом скуру злупіць.

Вось-жа ў адным двары быў такі ліхі пан. Чаго толькі ён не вытвараў. Як толькі ён ні зьдзекваўся над людзьмі! Сек ён і мужчын, і баб, старых і маладых. Не аднаго ён засек насьмерць і нікога не баяўся. А людзей ён лічыў горай за сабак.

Ня мог той паганы пан ужо больш нічога прыдумаць, каб пазьдзеквацца над людзьмі. Вось і загадаў ён, каб мужыкі прыводзілі на продаж валоў толькі ў двор. А па канцох сяла паставіў рагаткі ды і не дазваляў праехаць к мужыкам ніякаму купцу.

Вось і павялі людзі ў двор валоў на продаж. Але прывядзе хто вала, а пан і кажа:

— Што-ж ты прывёў, асёл, гэта-ж ня вол, а казёл.—І заплаціць, як за казла, а то яшчэ загадае ўсыпаць розгаў.

Доўга мучыліся бедныя мужыкі з такім паганым панам. Доўга цярпелі, бо што зробіш, каму пажалішся? Ведама, паны за паноў і цягнуць.

Але вось знайшоўся адзін чалавек, што адплаціў таму пану за яго людзкія сьлёзы ды за крыўду.

Вось як тое было. Быў там удалы здатны хлопец. Прыводзіць ён у двор на продаж вала. Убачыў пан, вышаў на ганак ды кажа:

— Што-ж ты прывёў, асёл, то-ж ня вол, а казёл.

Паглядзеў той дзяцюк, што блізка нікога няма каля пана, паказаў яму папліску да і пытае:

— Што гэта, пане: бяроза ці лаза? Я-ж прывёў табе вала, а не казла.—І давай пярэсьціць, давай дубасіць пана тою паплiскаю. Рэзаў, рэзаў, пакуль сам здаволіўся.

— Вось-жа табе, пане, за тое, што ты людзей мучыш. Калі вычухаеш гэта, то чакай мяне яшчэ, тады я здыму з цябе і скуру.

Сказаў гэта дзяцюк ды ўцёк у лес. А, ведама, якія даўней былі цёмныя ды густыя лясы. У іх жыві колькі хочаш, ніхто на цябе ня трапіць. Нашла дворня пана бяз памяці,—так вымясіў той дзяцюк.

Толькі на трэці дзень трохі ачухаўся пан і загадаў злавіць Рымшу—так звалі таго дзяцюка. Ды куды там, яго і сьлед ветрам заняло.

Доўга хварэў пан. Усе думалі, што ўжо яму прышлі канцы. Але ліхога і сьмерць не бярэ: к вясьне трохі вычухаўся пан і хацеў ехаць за граніцу на воды, ды бачыць і грошай няма. Задумаў ён прадаць лес. Пайшла погаласка, і пачалі купцы аглядваць лес. Таргаваліся яны, таргаваліся, ды ня сходзяцца аб цану, бо пан вельмі даражыўся.

Толькі вось прыехаў якісьці вельмі багаты купец. Павёў яго пан аглядаць лес. Хваліць пан лес, а купец толькі усё адводзіць пана ў гушчарню да ў нетру. Забраліся яны ў такую гушчэчу, што і сьвету белага нябачна.

Купец давай абнімаць хвоі, сажнем мераць таўшчыню. Абхапіў і пан адну хваіну, а купец хуценька выхапіў з кішэні вяроўку да і прывязаў пана к хвоі. Бачыць пан, што тут не пярэліўкі. Хацеў ён крычаць, зваць на ратунак, але так спалохаўся, што няма голасу. Паказаў яму купец паплiску, ды і пытае:

— Што гэта: бяроза, ці лаза? Я-ж, кажа, прадаў табе вала, а не казла.

Дагадаўся пан, што гэта Рымша. Тым часам Рымша запхаў пану мохам рот ды давай пярэсьціць па чым папала, да прыказваць, каб больш ня зьдзекваўся над людзьмі. Біў, біў Рымша пана, чуць на сьмерць не забіў, а потым кінуў прывязаным к хвоі, як падлу. Так да вечара і ўсю ноч правісеў пан на хвоі, пакуль дворня найшла.

От тут ужо пан цэлы год пракачаўся: усё ня можа выздаравець. Няма ачунку. І параілі пану ехаць на цёплыя воды. Прадаў гэта пан лес, прадаў збожжа і гавяду, сабраў многа грошай ды і давай зьбірацца на воды. Тым часам, Рымша усё цікуе за панам. Толькі пан выехаў з двара ды ўехаў у лес, як Рымша ўжо зрабіў на яго пастку. Паставіў ён на дарозе, ганок на трое адзін ад другога, двух конных хлапчукоў з доўгімі паплiскамі. Толькі пад'ехаў пан, як першы хлапчук трасе паплiскай да і крычыць:

— Што гэта, пане: бяроза ці лаза? А сам па кані ды і наўцёкі.

— Лапайце, лапайце, — крычыць пан, — то-ж Рымша!

Фурман адрэзаў пастромкі, сеў на каня і пагнаўся за хлапчуком. Але той шмыгнуў у лес, і ліха ведае куды дзеўся, а фурман папёр дарогаю ўперад мо' вёрст дзесяць. Тым часам, заехаў уперад другі хлапчук, паказаў пану паплiску да і пытае:

— Што гэта, пане: бяроза ці лаза?

— Лапай, лапай, яго, — крычыць пан на лёкая, — то-ж Рымша!

Ускочыў лёкай на другога каня да і пагнаўся за хлапчуком. Астаўся пан адзін. Тут Рымша высунуўся з-за дрэваў ды і паказаў пану паплiску:

— Што гэта, пане: бяроза ці лаза? Я-ж, кажа, прадаў табе вала, а не казла.

І давай дубасіць пана тэю паплiскаю. Зьбіў Рымша пана на горкае яблыка ды і пайшоў сабе ў лес, у сваю зямлянку. Кажуць, потым Рымша многа дабра рабіў бедным людзям. Яшчэ да гэтых часоў у цёмным лесе сярод балота стаіць гара. Яе называюць Рымшаваю гарою.



# Сабачы хвост



Апавяданьне І. Еўдакімава
Малюнкі М. Храпкоўскага

Сонца пазалаціла маленькі двор. Дзеці глядзелі праз адчыненае вакно на свайго любімага сабаку Карагая. Рыжы, кудлаты Карагай знайшоў недзе костку. Ён моцна ўвабраў яе паміж лап і са смакам грыз.

Побач, на вострых шчыкетах, сядзелі дзьве вароны. Карагай быў так заняты косткаю, што не зважаў на варон. Звычайна Карагай не дазваляў воронам нават блізка падляцець да агароду, а ня то што сядзець на шчыкетах. Ён падскокваў уверх, брахаў і з шалёнаю злосьцю лётаў з вугла ў вугал, ваюючы з варонамі.

Цяпер вароны асьмеліліся, што нават саскочылі на зямлю. Скок, скок—і да Карагая.

Дзеці прытаіліся. Што тут будзе?

А вароны скок, скок... пастаялі, параіліся на незразумелай варонінай мове і падзяліліся. Адна пачала заходзіць з галавы, другая з хваста. Карагай скоса паглядзеў на першую варону і памахаў хвастом. Другая падкралася ўжо к яму, дзяўбанула пучок шэрсьці і... адскочыла. Раз, другі, трэці...

Карагай злосна бурчэў. Варона дражнілася з ім. Яна скочыла на хвост і церабіла яго, нібы выплёўвала ваўчкі.

Дзеці высунуліся ў вакно. Цікава, што будзе.

Нарэшце, Карагай парашыў пакараць варон. Ён мігам агледзеўся і выскаліў зубы. Гэтага толькі і чакала варона, што круцілася каля галавы. Хітрая птушка схапіла костку і панесла.

Карагай сагнаў варону з хваста. Адвярнуўся назад, каб зноў узяць костку. Але косткі ня было на месцы.

Карагай усхапіўся, закруціўся і пачаў заўзята разграбаць зямлю—шукаць косткі.

Дзеці засьмяяліся і паказалі яму доўгія насы.

Карагай абшукаў увесь двор, усе куточкі, як крот перакапаў зямлю і нарэшце такі здагадаўся.

Ён некалькі разоў клаўся, хітра заглядваў на свой хвост, падпільноўваў, але вароны к яму не падыходзілі.



# БУЛЬБА

Быў час, калі людзі і ня знали бульбы, бо бульба — расьліна заморская. Расказваюць, калісьці даўно адзін чалавек выпісаў з-за мора некалькі бульбін і пасадзіў у сваім гародзе. Вырасла бульба, паказаўся на ёй цьвет.

„Вось, думае сабе чалавек, адцьвіце бульба і там, дзе цяпер кветкі, будуць плады“.

Гэтак і было.

Пасьля кветак вырасьлі зялёныя, круглыя з гарэх бульбяныя яблычкі.

Чалавек сабраў гэтыя яблычкі і зварыў. Каб было смачней, бульбяныя яблычкі ён падсмажыў на масьле, пасыпаў цукрам.

Паклікаў чалавек да сябе гасьцей і частуе іх заморскай стравою. Узялі госьці па адным смажаным яблычку, а праглынуць ня могуць, вельмі-ж былі нясмачныя.

Сорамна стала гаспадару.

Зазлаваў ён на заморскую расьліну, задумаў яе вырваць і выкінуць вон.

Аднак, калі вырвалі бульбоўнік, то ўбачылі на карэньнях яго бульбіны і папрабавалі іх сьпячы.

Бульбіны былі вельмі смачныя. Тады чалавек зразумеў сваю памылку і пачаў разводзіць бульбу.

З тэй пары людзі патроху сталі садзіць бульбу ў гародах, а потым і на полі. Цяпер у нас бульба самая пашыраная расьліна.




# Соль

Нарыс Я. Дубіцкага
Малюнкі А. Кроля

Сьцёпку і Юзіка зацікавіла пытаньне: адкуль бяруць соль? Яны паспрабавалі шукаць адказу ў кніжках, што ў іх былі, але не знайшлі. Юзік спытаў пра гэта ў дзеда свайго, але той, паціскаючы плячыма, адказаў:

— Ня ведаю, унучак. Прывозяць здалёк яе да нас.

Тады Сьцёпка параіўся з Юзікам:

— Давай хіба ў Паўлюка Банадысёвага запытаем. Ён-жа шакаэмавец—павінен ведаць.

Юзік згадзіўся. Неўзабаве хлопцы ўбачылі Паўлюка ў калгасным садзе. Ён сядзеў пад дрэвам на лаўцы і чытаў кнігу. Сьцёпка і Юзік наперабой запыталі ў яго падышоўшы:

— Паўлюк, ты ведаеш, адкуль бяруць соль?

— Якую соль?

— Ну соль, звычайную, якую-ж?

Падумаў Паўлюк крыху і запытаў:

— Ну, а па-вашаму, дзе яе бяруць?

— Мо, на фабрыках вырабляюць?— няўпэўнена прагаварыў Юзік.

Паўлюк пакруціў галавою і спытаў у Сьцёпкі:

— А ты як думаеш?

Сьцёпка маўчаў: ён не хацеў гадаць, бо ня ведаў, адкуль бярэцца соль.

Вось ад Паўлюка хлопцы і даведаліся пра соль. Паўлюк расказаў ім пра ўсё, што цікавіла іх.

* * *

Соль здабываецца з мораў, вазёр, з зямлі.

Морская вада салоная, бо ў ёй шмат распушчанай солі. Калі морскую ваду выпарваць на агні ў пасудзіне, дык па бакох і на дне пасудзіны асядае соль. Гэтую соль і можна ўжываць.

А вось як здабываюць соль з морскай вады.

Людзі капаюць на беразе мора вялікія ямы. Напускаюць сюды вады з мора. Вада выпарваецца ад сонца, а соль застаецца.

Ямы гэтыя капаюцца адна каля другой. Ваду з мора спачатку ўпускаюць у першую яму, калі яна крыху выпарыцца—яе прапускаюць у другую, потым у трэцюю і г. д. Першыя ямы зноў напаўняюць сьвежаю вадою.

У апошняй яме рошчына гусьцее, а соль асядае на дно ямы. Гэтую соль выбіраюць з ямы і сушаць на сонцы. Пасьля сушкі соль развозяць для ўжываньня.

Шмат солі здабываецца і з салёных вазёр. Гэтыя вазёры ў большасьці мелкія—чалавеку па калена. Вада ад сонца выпарваецца ў іх надта шпарка, а соль сама асядае на дно. Гэту соль завуць **самаасадачнай**.

У халодных краінах соль здабываецца пры дапамозе марозу. Там



таксама морскую ваду ўпускаюць у ямы, дзе яна зьверху замярзае. Соль ніколі не трапляе ў лёд, а застаецца распушчанай у вадзе. Лёд зьверху ломяць і выкідаюць, а вада зноў замярзае. Так робяць да таго часу, пакуль вада зусім ня вымерзьне.

Соль здабываецца яшчэ з салоных ручаёў праз **градырні**. Градырня—гэта такое памяшканьне, наноўненанае гальлём. Салоную ваду помпамі зьліваюць на верх гальля. Вада, прасочваючыся праз гальлё, выпарваецца, а рошчына солі сьцякае ў асобныя катлы. У катлох ваду дарэшты выпарваюць агнём, а соль застаецца.

Часта соль здабываецца з зямлі, як каменны вугаль. У зямлі яна залягае часамі тоўстымі пластамі. Гэгая соль таксама самаасадачнага паходжаньня. На гэтых мясцох былі калісьці вазёры або моры, якія высахлі. Соль асела на дно, засыпалася зямлёю і зьлежалася як камень. Таму і завуць яе **каменнай**.

Хлопцы ад Паўлюка даведаліся яшчэ пра тое, што соль ужываецца ня толькі для яды, а і для вырабу соды, салянoй кіслаты і іншых прадуктаў.

# ПЧОЛКА-МАХНАТКА

У нашым садзе ёсьць пчалярня, а ў ёй вульлі з пчоламі. У адным з вульляў жыла пчолка-махнатка.

Згодна, дружна жывуць між сабой пчолы. Вось толькі ворагаў у іх многа: каторую верабей ці ластаўка на-ляту праглыне, каторая да павука ў павуцьцё трапіць, а каторую разьбойніца-аса па дарозе заколе, ды зьесьць тут-жа.

Праўда, у пчол ёсьць джала, але ня вельмі выгадна бывае ім бараніцца. Ня вымеш джала — памірай! Пчала бяз джала і дня не пражыве.

Аднаго разу махнатка варочалася з мёдам дамоў і яшчэ здалёк пачула нешта нязвычайнае. Уся пчалярня гудзела і жужэла, нібы ўзбунтавалася. А скрозь гэты пчаліны гул чулася страшнае вурчаньне.

Падляцела махнатка бліжэй і на-ляту спынілася. З усіх вульляў пчолы высыпалі сотнямі, тысячамі. Ад гуду іх няга стагнала паветра. Мядзьведзь вялізарны, калматы вурчэў, хадзіў на задніх лапах між вульлямі, а пярэднімі церабіўся ад пчол. Раптам ён крута павярнуўся да аднаго вульля і паваліў яго, а вулей гэты быў махнаткі. Накрыўка з вульля скацілася, уся рэшта пчол хмаркаю ўзьвіліся ўверх. А мядзьведзь адной лапай закрыўся ад пчол, а другой палез проста ў вулей ды і хапнуў самы сакавіты залацісты мёд.

Махнатка не магла стрымацца ад такой крыўды, і моцна ўтнула яму проста ў вока. Мядзьведзь завыў ад болі і пабег вон без аглядні. У гэты час падышоў да вульля пчаляр і паставіў яго на месца.

Але бедная махнатка! Яна ўсадзіла мядзьведзю джала так глыбока, што яно там і засела. Пчолка раптам зусім аслабела, звалілася на зямлю, зашылася ў траву і там зайшлася. Але ўміраючы, яна не шкадавала аб тым, што для ратунку вульля загубіла сябе.





# ЖУРАЎЛІ—ТАНЦОРЫ

*(З апавяданьня ДУРАВА)*

Сярод маіх птушак былі чатыры жураўлі.

Пасьля доўгай і ўпартай працы, мне ўдалося навучыць жураўлёў танцаваць.

Гэта былі самыя забаўныя танцоры. Нават я сам ня мог стрымлівацца ад сьмеху, калі яны танцавалі.

Аднаго разу я з сваім тэатрам паехаў у горад Кастраму. Там мы меліся паказаць сваіх вучоных птушак. Але здарылася вялікае няшчасьце: трое жураўлёў вырваліся на волю і паляцелі.

Я ня ведаў, што рабіць,

Мінула некалькі дзён. Да мяне прышоў адзін паляўнічы і кажа:

— Быў я сёньня на паляваньні. На балоце напаткаў трох жураўлёў. Гляджу на іх і сам сабе ня веру: жураўлі танцуюць! Я падумаў, што, можа, гэта мне здаецца. Ніколі ў жыцьці такога ня бачыў. Каб праверыць сябе, я стрэліў. І вось аднаго забіў... Ідучы дамоў, на станцыі я прачытаў афішу пра Ваш тэатр і здагадаўся, што гэта вашы жураўлі.

Я доўга з жалем глядзеў на забітага журку. Потым папрасіў паляўнічага завесьці мяне на тое балота.

Але на балоце жураўлёў ужо ня было...

# ЦІ ДОЎГА ЖЫВУЦЬ ЖЫВЁЛЫ?

**Самаю даўгавечнаю жывёлаю зьяўляецца чарапаха: яна можа пражыць да 300 год.**

**Слонь і кіт жывуць па 200 год.**

**З птушак: сокал жыве да 160 год, каршун—118 год, арол—100 год.**

**З хатніх жывёл найбольш даўгавечным зьяўляецца асёл, які дажывае аж да 110 год.**

**Больш за 100 год жывуць совы, вароны, папугаі, лебедзі і гагары. Да 50 год дажываюць такія жывёлы: коні і мядзьведзі, а з птушак—галубы.**

**З рыб больш за 100 год жывуць карпы і шчупакі.**

# КОЛЬКІ ДРЭВУ ГОД

Шмат разоў бачылі вы на сьвежых пнёх сьветлыя і цёмныя кружочкі. А ці ведаеце вы, што кожныя два кружочкі — цёмны і сьветлы— азначаюць пражыты дрэвам год.

Як гэта выходзіць?

А вось як.



Кожны год дрэва дае прырост ушыркі. Рост гэты пачынаецца вясною і канчаецца ўвосень. Зімою дрэва не расьце.

Вясною, калі вільгаці шмат, пачынае нарастаць дравясіна. Яна мяккая, багатая вадою і таму колер яе больш сьветлы. Пад восень, калі вільгаці менш, нарастае шчыльнейшы пласт цёмнага колеру.

Такім чынам, на дрэве кожны год нарастаюць два кружочкі—цёмны і сьветлы. Па гэтых кружочках ня толькі можна падлічыць, колькі дрэву год, але і даведацца, як яму жылося. Калі кружочкі надта тоненькія, што амаль зьліваюцца адзін з другім, дык прырост быў малы. На гэта ёсьць прычыны: або засушлівы год быў, або густа расьлі дрэвы, што ім не хапала вільгаці. Калі на пні кружочкі шырокія — значыць дрэву жылося добра.

Схадзеце ў лес на экскурсію і па сьвежых пнёх падлічэце, колькі год дрэву.

# ХТО ЛЕПЕЙ НАПІСАЎ АПАВЯДАНЬНЕ

На зьмешчаныя малюнкі ў часопісі „Іскры Ільліча“ № 5—6 рэдакцыяй атрымана каля 40 апавяданьняў.

Добра напісалі апавяданьні такія вучні:

1. **Перагуд Алена** (з Церахоўскага раёну), **Александровіч С.** (з Капыля), **Крывілевіч Бенціян** (з Бялыніч), **Сас Алесь** (з Крупскага раёну), **Аронаў А.** (з Воршы), **Карлоўскі Я.** (з Уваравіцкага раёну), **Сарока Жэня** (з г. Магілёва). **Жукаў Мікіта, Быкаў Янка** (Сіроцінскага раёну), **Мележ Янка** (з Хойніцкага раёну), **Дуля Мікалай** (з в. Балотчыцы), **Кавалёва Валянціна** (з г. Воршы), **Клязовіч Янка, Усеня Алесь** (Ст-Дароскага раёну), **Ляшчынскі В.** (Менск), **Бугаёў Андрэй** (Шклоўскага раёну), **Бягуноў Ляксей** (Ворша), **Баранчык Базыль** (Старобінскага раёну), **Карчэўскі Павал і Атаманчук Мікіта** (Салтанаўская ШКМ).

Астатнія вучні напісалі дрэнна. У іхніх апавяданьнях многа памылак і нескладнасьці.

# З Л А В І Л І...

*(З часоў белапольскай акупацыі)*

Не давалі супакою белапалякам партызаны. Адсюль-адтуль ды патрывожаць іх.

Прыляцелі, як зьвяр'ё, белапалякі ў вёску. „Дзе партызаны? Кажэце хутчэй?“



Чуюць Пецька з Грышкам пагрозы панскія. — Бяжы, Грышка, у лес,—кажа Пецька,—перадай пра ўсё партызанам. Няхай падрыхтуюць аблаву на паноў, а я іх прывяду...



— Я ведаю,—кажа Пецька,—дзе партызаны...
— О, малайчына!—узрадваліся паны,—вядзі нас скарэй!





Бяжыць Грышка па лесе, сьпяшаецца перадаць партызанам вестку пра белапалякаў. Спакойна выслухаў усё партызанскі дазорца і зараз-жа перадаў сваім таварышом.




За міг сабраліся партызаны на нараду—як лепей расправіцца з панамі?
А праз некалькі хвілін...




Закіпела работа: зашоргалі пілы, застукалі тапары. Сьпяшаюцца партызаны падрыхтаваць сустрэчу няпрошаным гасьцям...




Вядзе Пецька ў лес белапалякаў. А сам па бакох аглядаецца: „Як-бы ўцячы ў патрэбны час", думае ён.



— Што такое? Што...—закрычалі зьбянтэжаныя паны, падаючы разам з падрэзаным мостам у раку. А гэтым часам...

746



— Рукі ўгору!—закрычалі партызаны, выскачыўшы з-за горкі.
Мокрыя стаяць паны. Паднялі рукі ўверх.
— Вось вам, панове, і партызаны: лавеце іх,—жартуюць хлопцы з белапалякаў.




ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“. Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ.

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 1531. 4.265 экз. Менгарліт № 1440.